# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 5 (1707) ГОД XXXIV БЕЛАСТОК, 29 СТУДЗЕНЯ 1989 г. ЦАНА 20 зл.


МОЛАДА — СУЧАСНА — НА-БЕЛАРУСКУ

## БОНДА — БОНДА АГУЛЬНАЙ СПРАВЫ

Калі збоку паглядзець на газеты беларускі рок-гурт, дык лёс яго можа здацца засыпаным ружамі: пачынаючы з 1986 года, цяжка нават пералічыць газеты, якія друкавалі рэцэнзіі, напісаныя з захапленнем пра „Бонду" і яе канцэрты (дастаткова сказаць, што гэта былі выданні на беларускай, польскай, літоўскай, балгарскай, рускай, англійскай мовах). Да таго ж, гэта адзін з нямногіх маладзёжных калектываў на Беларусі, які за сваю музыку атрымлівае грошы. (Раней жа, калі манаполію на канцэртную дзейнасць трымала філармонія, гэтага і ўявіць было немагчыма — усё маладзёжнае лічылася самадзейным, не вартым сур'ёзнай увагі).

І ўсё ж давайце паглядзім на лёс „Бонды" пільней. Возьмем пад увагу хоць бы тое, што пачатак гэтага рок-гурта сягае аж у 1982 год (яго стварылі студэнты Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута). Значыць, добрых чатыры гады (не лічачы папярэдняга супрацоўніцтва Янкі Маркава і Сяржука Кныша) выпадаюць з гэтага „шчаслівага лёсу"?

Сёй-той скажа: „Ну і што? Відаць, не адразу ў хлопцаў атрымалася". Але ж не: яшчэ з тых часоў памятаюцца баявікі „Бонды": „Месца пад сонцам", „Тата мае рацыю", „Песня падарожніка"... Першыя беларускія супер-хіты.

Так што не варта згладжваць цяперашнімі дасягненнямі вострыя шыпы біяграфіі рок-музыканта пачатку 80-х. І лёс „Бонды", і гісторыя беларускага року пачыналіся зусім няпроста.

Тады, у пачатку 80-х, іх было толькі двое — „Мроя" і „Бонда". А яшчэ было рэстаранна-вясельнае лабства і процьма „рокераў пад касцьці", якія альбо жылі з англамоўнай рок-класікі, альбо фатаграфавалі даволі сталую ўжо ленінградскую ці эстонскую школу рока.

На першыя поспехі не зважалі сродкі масавай інфармацыі, але яны бударажылі моладзь. Яна пачала верыць, што беларускі рок павінен быць менавіта такім. І вось з асяроддзя гэ-

(Працяг на стар. 3)



БЯРЭЗНІК ЗІМОЮ. Фота Янкі Целушэцкага.

## ХРОНІКА

**СНЕЖАНЬ 1988 г.**

5.12. — Беласток наведаў выдатны беларускі паэт, галоўны рэдактар „Літаратуры і Мастацтва" Анатоль Вярцінскі. Госць з Мінска сустрэўся з працаўнікамі ГП БГКТ, з рэдакцыяй „Нівы", наведаў Гайнаўку і беларускі ліцэй. На наступны дзень пабываў у пачатковых школах у Орлі і Пашкоўшчыне.

8.12. — У гасцях у ГП БГКТ пабывалі прадстаўнікі кніжнага гандлю з Гродна. У размове былі закрануты праблемы кнігаабмену паміж Беласточчынай і Гродзенскай вобласцю.

21.12. — Члены Прэзідыума ГП сустрэліся з праф. Уладзіславам Сэрчыкам, старшынёю Камісіі навукі, асветы і культуры Ваяводскай рады нарадовай. У гутарцы закрануты былі праблемы, з якімі сутыкаецца БГКТ і беларускае асяроддзе на Беласточчыне пры рэалізацыі сваіх нацыянальных памкненняў. Выдатны вучоны-гісторык і грамадскі дзеяч праф. У. Сэрчык з'яўляецца адным з нешматлікіх прадстаўнікоў польскай інтэлігенцыі, якія імкнуцца наладзіць нармальныя суадносіны паміж польскім і беларускім насельніцтвам на Беласточчыне ва ўсіх галінах грамадскага жыцця.

**Ян Максімюк**

## Жадаю ладу ў жыцці, а ў працы — плёну

**ГУТАРКА З УЛАДЗІМІРАМ КАЗБЕРУКОМ — НАВУКОВЫМ СУПРАЦОЎНІКАМ ІНСТЫТУТА ЛІТАРАТУРЫ АКАДЭМІІ НАВУК БССР.**

**— Вы некалькі гадоў не былі ў Польшчы. Якія ўражанні пакінулі ў Вас апошнія паездкі ў ПНР?**

— У 1988 г. я быў у ПНР двойчы: у канцы чэрвеня, калі я прымаў удзел у міжнароднай навуковай канферэнцыі, прысвечанай 30-годдзю літаратурнага аб'яднання „Белавежа", і ў канцы верасня ў сувязі з адкрыццём помніка на магіле Алеся Гаруна. Абодва разы мой побыт быў вельмі кароткі. Для нейкіх канкрэтных назіранняў я практычна не меў ніякіх рэальных магчымасцей. Але я заўважыў — і гэта мяне моцна ўсцешыла, — што ў грамадскім беларускім руху з'яўляюцца новыя дзеячы, новыя імёны, новыя актывісты. Гэтым самым БГКТ даказвае сваю жыццёвасць і дынамізм.

З культурна-грамадскага жыцця мяне асабліва ўразіла настойлівасць кіраўніцтва БГКТ у справе збору сродкаў і разгортвання будаўніцтва Беларускага музея ў Гайнаўцы. Я сабе ўяўляю, з якой пашанай калісьці нашчадкі будуць гаварыць пра арганізатараў і кіраўнікоў будаўніцтва. І адначасова словы найглыбейшай павагі хачу адрасаваць тым, хто так настойліва заняўся пошукамі магілы Алеся Гаруна і ўвекавечыў яго памяць помнікам. Гэтымі справамі можна па-сапраўднаму ганарыцца.

Магу яшчэ сказаць, што заўсёды вялікае ўражанне на мяне робяць тыя змены, якія адбываюцца і ў Беластоку, і ў Бандарах. На вёсцы — новыя хаты, сучасныя салідныя дарогі, пра якія калісьці ніхто б і марыць не мог. Бадай найменш, калі не памыляюся, змянілася цэнтральная вуліца Міхалова, у якім я вучыўся ў 1934/1935 навучальным годзе.

**— Вы ўдзельнічалі ў міжнароднай канферэнцыі, прысвечанай 30-й гадавіне „Белавежы". Што маглі б сказаць аб гэтай канферэнцыі?**

— Сам па сабе факт, што „Белавежа" разам з БГКТ і Варшаўскім універсітэтам маглі арганізаваць міжнародную навуковую канферэнцыю, — пераканаўчае сведчанне поспехаў і здзяйсненняў аб'яднання, яго дынамізму. Каб не было здзяйсненняў, то не было б і асновы для канферэнцыі. У той жа час гэта была аказія сур'ёзна паразважаць не толькі аб пытаннях, якія маглі б датычыць або цікавіць адных „белавежцаў", але і аб шырокіх праблемах беларуска-польскіх культурных, літаратурных і гістарычных сувязей, што і было зроблена.

(Працяг на стар. 4)

# БОНДА — БОНДА АГУЛЬНАЙ СПРАВЫ

(Працяг са стар. 1)

гай моладзі выйшаў яшчэ адзін аднадумец — „Магістрат". Паспрабавалі свае сілы і рускамоўныя „Блізняты". Разам гэтыя чатыры гурты пад кіраўніцтвам журналістаў газеты „Чырвоная змена" стварылі ў 1985 годзе рок-клуб. Гучнае імя „Нямігі" робіць у 1986-м першы прарыў скрозь мур забарон. І калі „Блізнятам" тады так і не дазволілі выступіць на яго адкрыцці, дык „Бонда" паказала сябе так удала, што праз некалькі тыдняў дае ўжо першыя канцэрты за межамі рэспублікі, запісвае на Літоўскім тэлебачанні (і атрымлівае першы ганарар за сваю творчасць) „Песню падарожніка":

Вазьмі заплечнік, компас
і бадзёрасць духу,
У шлях мы рушым разам,
пазабыўшы скруху.
Паветра прагна будзем піць
на золку.
Што ёсць на свеце лепей
за вандроўку?

Як усё пайшло гладка?! Ды каб так! Яшчэ аўтар першага артыкула пра „Бонду" ў „Чырвонай змене" не паспеў даслухаць усіх адрасаваных яму натацый клеркаў ад культуры, а тут яшчэ артыкул перадрукоўваюць у Літве (як на нацыянальнай, так і на рускай мовах з нагоды канцэртаў).

Не, распусцілася гэтая моладзь. Трэба забараніць „Бондзе" выступаць. Па-першае, не мае права самадзейны калектыў на назву, ёсць жа спецыяльныя інструкцыі, па-другое, як жа можна — з такой назвай — „Бонда" нейкая; відаць, бандыты самі ці ідэал іхні — амерыканскі Джэймс Бонд. Што, кажаце, старабеларускае слова? Усё зразумела: нацыяналісты паршывыя. Забараніць!

Ці трэба акцэнтаваць увагу на тым, чаму праз пэўны час сярод калег „Нямігі" стала меней аднадумцаў: „Блізняты" вырашылі скончыць свае беларускія эксперыменты, „Магістрат" разваліўся (каб праз два гады, у канцы 1988 г. узнікла адразу два „Магістраты", абодва са старой праграмай, але адзін, у Мінску, спяваў яе па-руску — газета „Знамя юности" назвала яго самазванцам, — а другі ж, у Магілёве, па-беларуску, абвінавачваючы сваіх калег у здрадзе.)

Стабільна трымалася толькі „Мроя" і „Бонда". І не проста стабільна, а паспяхова. Праўда, поспехі часам выходзілі бокам. Вось прэса адстаяла ў Беларускай філармоніі месца для АДНОЙ беларускай рок-групы. Узялі „Бонду". І як на зло (?!!) яе запісы (касеты ж распаўсюджваліся маланкава) надумала круціць „БіБіСі".

Хтосьці скеміў па-свойму: — Пацаны на Лондан працуюць.

І гэта быў не жарт, бо пад пагрозай апынулася не толькі мройнае месца ў філармоніі, але і студэнцтва. Пачаліся дапросы: — Адкуль у вас дарагія заходнія гітары?

Добра, што ўдалося даказаць факты неаднаразовых сібірскіх „канікулаў", дзе ўдавалася зарабіць на інструменты.

Студэнтамі яны засталіся, але засталіся і бесгаспадарчай, беспрытульнай, хоць і таленавітай рок-групай.

...Пакрысе набірала тэмп перабудова. Вось ужо і магчымасць ёсць выступаць не на пазычаным абсталяванні, а на штатным, вось ужо і платныя канцэрты дазволілі даваць, а потым, не адразу, „Бонда" змагла і сама грошы атрымліваць за сваю музычную працу.



*Стаяць злева: Вячаслаў Корань, Янка Маркаў, Ігар Варашкевіч і Сяржук Краўчанка, сядзіць — Сяржук Кныш.*

Удача? Але калектыў ужо стварыў каля чатырох рок-альбомаў, ніводзін з якіх яшчэ не бачыў свайго вінілавага ўвасаблення. Моладзь ведае дзесяткі песень калектыву, але ніхто не трымаў у руках яго пласцінкі. А пакаленні ж мяняюцца. Паспрабуй потым дакажы свайму малодшаму сябру, што ў 80-я гады ўсе шалелі па „Бондзе", па „Мроі", па „Магістраце", што была і думка, і энтузіязм, і талент, што была свядомасць. Фірма „Мелодыя" спіць. Яна перабудавалася, ганіць рок, але „Бондзе" ўжо давялося пачуць: „Вы хорошо играете, но не надо такую музыку петь по-белорусски. Либо давайте по-русски, либо оденьте сорочки, лапти и исполняйте фольклор". Спроба давесці, што яны і ствараюць сучасны гарадскі беларускі фальклор наткнулася на сцяну непаразумення.

Сябры „Бонды" спрабуюць выдаць яе дыск-міньён „Белая хваля" ў ЗША, але як толькі пра гэта паведамляе адна амерыканская радыёстанцыя, а потым з'яўляецца інфармацыя ў савецкіх газетах, „Бондзе" даводзіцца зноў трымаць адказ перад Мінгарвыканкамам: „Як вы пасмелі?" Вынікі: рок-гурт зноўку апынуўся без апаратуры. А з электрагітарамі без канцэртнай панарамы і студыі рабіць няма чаго.

Кожны з нас мае месца пад
сонцам,
Незалежна, хто ён і дзе.
Кожны з нас жыве з надзеяй
Растлумачыць уласны стан,
Каб на сэрцы стала меней
Недарэчных шэрых плям.

Пра гэта яны марылі ў сваіх песнях, калі іх абвінавачвалі ў беспадстаўным песімізме. Але нягледзячы на нягоды, думалі не толькі пра сябе. Вось як яны апяваюць, скажам, помнікі беларускай архітэктуры, крыніцы нацыянальнай свядомасці ў песні „Слуцкая брама":

Спазналі многа твае велічныя
сховы
Дабра і зла ліхую кругаверць.
Сябрам была ты шчаснаю
падковай,
А лютым ворагам абяцала
смерць.

„Слуцкая брама — я твой вартаўнік", — гучыць фінальная кода кампазіцыі.

На шчасце, перабудова многае ўсё ж памяняла ў жыцці. І калі ёсць яшчэ нейкія рэцыдывы тармажэння свядомай творчасці, яны ўжо не ўяўляюцца непралазным мурам. Хоць недзе перамагла рэакцыя, дык ёсць перамогі і ў маладзёжнага беларускага рок-руху. Тая ж „Бонда" ўжо мае аж два каларытных плакаты, выдадзеных якасным афсетным друкам, запісала шэраг тэлеролікаў, зрабіла відэакліп для Цэнтральнага тэлебачання паводле антысталіноўскай песні „Ура!!!"

Сёння „Бонда" — гэта амаль нязменны склад Янкі Маркава (гітара), Сяржука Кныша (барабаны, тэксты), Ігара Варашкевіча (спеў, губны гармонік, кампазіцыя), Вячаслава Кораня (гітара), Сяржука Краўчанкі (бас) і Георгія Воўчака (акардэон).

„Бонда" крочыць далей з новымі ідэямі, спадзяваннямі і перамогамі. Толькі адно застаецца нязменным — адчуванне радзімы.

**Вітаўт Мартыненка**




## ПЕРШЫ КОЛАС

*„Хоць зернейкі засохшыя б былі..."*
*М. Багдановіч*

*Прысвячаю „Ніве"*

**На шыбах заблішчэў бялюткі шрон,
А за вакном рыпіць па снегу полаз,
А я чакаю прагна лета светлых дзён
І Першы ў полі ўрадлівы Колас.**

**Хаця віхуры снегу намялі,
Засыпалі сады, як перад сконам,
Крыніцы, усё ж, абудзяць сон зямлі
Вады сваёй срабрыстым пераззонам.**

**Нямала пройдзе недарэчных сноў,
Пакуль пад снегам зберагуць свае
парасткі нівы
І зерне ажывіць з-пад усіх ільдоў
Вясны зялёнай подзьмух клапатлівы.**

**І вось тады, як спеўны гімн зямлі
Пад небам жаўрука ўславіць голас,
Над рэчкай зашумяць задумай
тапалі, —
У полі Першы вырасце нам Колас.**

**І будзе ён — найлепшы з маладых —
Красой сваёй між каласоў адменны —
Для прыкладу другім на нівах
залатых
У полі Першы Ён — Благаславенны.**

**Тут продак мой баразнамі хадзіў,
Дзе жаўрукі яго заваражылі звонка,
І я сама ад гэтых шчодрых ніў,
Дзе васілёк і белая рамонка.**

**Бо я сама ад гэтых родных ніў,
Дзе шчасце першае спаткаць мне
давялося,
Дзе досвіткам спявае сярод жніў
З паклонамі жытнёвае калоссе.**

**І дзе б я ні была сярод чужых краін,
Усюды помніць буду Першы ў полі
Колас
І славіць яго будзе шчыры ўспамін
І песняю душы мой голас...**

**Алёна Шарэпа-Лапіцкая**
**Мінск**

* * *

Я адчуваю сам сябе
Нібы у нейкай змове:
Я не магу пра Беларусь
Пісаць на іншай мове.

Нібы не вершы я пляту,
А без гармат і танкаў
На мову родную вяду
Шарэнгі акупантаў.

Нібы не проста над радком
Апоўначы мудрую —
Безабаронны матчын дом
З хаўруснікам рабую!

О, мова шчодрая дзядоў,
Не саступі нікому
Ні сёл сваіх, ні гарадоў
Ні зор, ні крыгалому;

Усё, што бачыш прад сабой —
Жыты, суніцы, вежы —
Усё тваё табе адной
Да скону дзён належыць!

Аберагай жа дзень за днём.
Гадуй святыя словы,
І пойдуць пылам і агнём
Усе у свеце змовы!

1966-1970

**Іван Ласкоў, Якуцк (РСФСР)**

# Вандроўкі па роднай зямлі

(Заканчэнне)

## ВАНДРАВАННЕ ПРАДАЎЖАЕЦЦА

Пры ўездзе ў Стрыкі стаіць каплічка з 1911 г., якую стрыкаўцы называюць святым Янам. Калісьці на тым месцы стаяла драўляная фігура св. Іаана Хрысціцеля, велічынёю ў рост чалавека. Пэўна паходзіла яна з часоў уніі. Сярод жыхароў Стрыкоў жыве памяць аб здарэнні, звязаным з фігурай св. Іаана.

Аднойчы з Бельска ў Стрыкі ехаў царскі прыстаў, каб сцягнуць з жыхароў падаткі. Не даехаў, аднак, ён спакойна ў сяло. Іаан перапужаў яго коней. Якраз насупраць фігуры яны панеслі прыстава. Ён, ледзь выратаваўшыся, потым строга загадаў фігуру св. Іаана скінуць з пастумента і закапаць на месцы, якое вяскоўцы называлі „шчурэўскія могілкі“. Здарэнне гэта мела месца ў палове XIX ст. і было яно, можна сказаць, адным з апошніх актаў расправы царскага ўраду над праявамі уніяцтва на Беласточчыне.

Фігуру ніколі не адкапалі. А на „шчурэўскіх могілках“ ад тае пары ноччу паказваецца з'ява ў белым. Той мае шчасце яе ўбачыць, хто моцна верыць у яе існаванне...

Назва „шчурэўскія могілкі“ паходзіць ад прозвішча гаспадара Шчурэўскага, за пляцам якога тыя могілкі былі. Гісторыя „шчурэўскіх могілак“ сягае далёка ў глыб мінулага. Ужо толькі некалькі намагільных камянёў выглядае з-пад зямлі, і толькі на адным з іх відаць яшчэ досыць выразна высечаны крыж.

Традыцыя такіх крыжоў сягае перыяду Кіеўскай Русі. Няўжо гэтым могілкам 800, а мо больш гадоў? Гэтае пытанне хвалюе. І што яшчэ больш хвалюе? У якую пару не зайсці на „шчурэўскія могілкі“, заўсёды над тым каменем ляжаць свежыя кветкі і галінкі яліны, а ўначы часам можна ўбачыць, як з могілак праблісквае невялікі агеньчык.

Але вернемся да каплічкі. Была яна пабудавана ў 1911 г. стрыкоўскай моладдзю. Галоўным ініцыятарам пабудовы быў Ануфрый Шымковіч. Сын Ануфрыя, Іван, і сёння жыве ў Стрыках. Ён таленавіты мастак-жывапісец. Не адну царкву на Беласточчыне ўпрыгожваюць яго іконы і малюнкі. Іван Шымковіч малюе таксама краявіды, партрэты і робіць копіі карцін вядомых мастакоў. Ён — самавук, таму яго мастацтва простае, як душа нашага чалавека, а разам з гэтым па-свойму дасканалае.

Стрыкі з іх людзьмі і гісторыяй — вельмі цікавае сяло. Таму, каб бліжэй іх спазнаць, трэба сюды прыбыць не адзін раз. А цяпер, што ж, пара ўжо далей падавацца.

...Зямліца наша родная, ты нас

(Працяг на стар. 7)

# Свойскія малюнкі



*Хата ў Цялушках. Мал. У. Петрука.*

## ВЯСКОВЫЯ САМАЎПРАВЫ

**У гміне Орля 25 салэцтваў. Некаторыя з іх малаактыўныя. Яны ў асноўным патрабуюць усяго ад гміны. Самі не выказваюць ніякай ініцыятывы. Надта важнай справай на вёсцы з'яўляецца выкарыстоўванне ўласнага грашовага фонду, а ў многіх жа вёсках гэтыя грошы не выкарыстоўваюцца, значыць, не прыносяць ніякай карысці. Нядобрая гэта з'ява, калі солтыс толькі паўтарае: „гміна не зрабіла, гміна не дала“, а не праяўляе ніякай уласнай ініцыятывы. Значыць, што не трапна выбіраліся вясковыя самаўправы. Вось прыклад: большасць вясковых самаўправаў не выканала планаваных рамонтаў дарог, святліц, не купіла машын, не праклала тратуараў. У сувязі з гэтым на канец 1988 г. на іх рахунку ва ўсёй Арлянскай гміне асталіся нявыкарыстаныя некалькі мільёнаў злотых. Гэта „замарожаны капітал“, які, калі б быў пушчаны ў рух, прынёс бы гміне новыя дарогі, святліцы і т.п.**

**Есць пастановы Гміннага камітэта партыі, каб вёскі супольна рэалізавалі інвестыцыі і выкарыстоўвалі супольныя фонды. У выпадку Арлянскай гміны можа гэта быць дарога паміж Дыдулямі і Круглым, з якой маглі б карыстацца жыхары Дыдулёў, Круглага, Москаўцаў, Вулькі-Выганоўскай, Паўлінава і Чэхаў-Забалотных. На конце толькі гэтых вёсак знаходзіцца звыш 1 мільёна зл.**

**Вясною бягучага года запланавана пусціць аўтобус, які б ездзіў па трасе Бельск — Пашкоўшчына — Дыдулі — Круглае — Паўлінава — Чэхі-Забалотныя — Москаўцы — Вулька Выганоўская — Грыгораўцы — Малліннікі — Шэрні — Кашалі — Орля — Бельск. Хачу сказаць, што дагэтуль жыхары гэтых вёсак не мелі непасрэднага спалучэння з Орляй праз Бельск. Верым, што дырэкцыя ПКС у Бельску, нягледзячы на цяжкасці, адкрые гэтую аўтобусную лінію, ле вельмі чакаюць жыхары спомненых вёсак.**

**На пленуме Гміннага камітэта ПАРП стаяла таксама прапанова, каб вясковыя самаўправы ў грамадскім пачыне выканалі плугі для адгортвання снегу на сваіх дарогах. Ведаючы, як цяжка бывае зімою, гэтая думка варта падтрымкі. У пастановах пленума гаварылася таксама, каб вясковыя самаўправы адкрывалі новыя паслуговыя пункты, кіёскі і гэтак далей. Можна, напрыклад, ачысціць існуючыя сажалкі і закладаць гадоўлю рыб. Заданні, якія могуць выканаць вясковыя самаўправы, вельмі вялікія і самі вёскі могуць зрабіць для сябе вельмі многа.**

**Да перадавых вясковых самаўправаў у гміне Орля належаць: Орля, Рудуты, Крывяцічы, Кашалі. Гэтыя вёскі рацыянальна выкарысталі свае фонды для дабра ўсіх жыхароў.**

**Ян Кубаеўскі**

# Жадаю ладу ў жыцці, а ў працы — плёну

(Працяг са стар. 1)

Значным дасягненнем арганізатараў канферэнцыі я хацеў бы палічыць тое, што ў ёй удзельнічала моладзь. А гэта значыць, што ў сучаснага, вельмі заслужанага актыву БГКТ і ў „белавежцаў“ расце змена, зацікаўленая справамі развіцця беларускай культуры. Гэта дае падставу глядзець у будучыню з аптымізмам.

**— Што Вы, як гісторык літаратуры і проста як чытач думаеце аб літаратурным беларускім руху ў Польшчы?**

— У сваім дакладзе на канферэнцыі я ўжо сказаў, што сапраўдная навуковая гісторыя беларускай літаратуры не зможа не ўлічваць здзейсненняў аб'яднання „Белавежа“. І справа тут нават не ў колькасці падрыхтаваных і выдадзеных кніг — хоць тут лічбы ўражваюць (асабліва калі не забываць пра вашы ўмовы і магчымасці), — а ў разнастайнасці творчых манер пісьменнікаў (паэтаў, празаікаў, публіцыстаў).

Уся дзейнасць БГКТ і літаратурнага аб'яднання „Белавежа“ дае падставу для аптымістычных разважанняў. Пасля другой сусветнай вайны на невялікім ускрайку зямлі на Беласточчыне зусім самастойна, без якой бы там ні было падтрымкі, зарадзіўся і набраў сілы шырокі культурна-грамадска-мастацкі рух. У гісторыі беларускай культуры пакіне трывалы след і „Ніва“, і мастацкія ды і навуковыя публікацыі прадстаўнікоў Беласточчыны.

„Белавежцы“ здзяйсняюць тое, чаго не маглі зрабіць нашы продкі. Ці многа мы сёння ведаем, як на Беласточчыне жылі людзі 100, 200, 300 гадоў таму назад? У наш час у лёсе народа адбываюцца карэнныя, рэвалюцыйныя змены, старая вёска знікае з гістарычнай сцэны. І толькі творчасць пісьменнікаў дае магчымасць зберагчы тое, што нам уяўляецца нечым звычайным, будзённым, можа нават і недастаткова цікавым, але што для нашчадкаў будзе незвычайным адкрыццём і сапраўдным багаццем.

Энтузіязм „белавежцаў“ — гэта школа патрыятычнага выхавання і для нас. „Ніва“ і „белавежцы“ маюць магчымасць у нечым нас апярэджваць. Вы, напрыклад, без усякіх перашкод пісалі пра Алеся Гаруна тады, калі мы яшчэ вымушаны былі лічыцца з воляй некампетэнтных чыноўнікаў.

Не ведаю, ці гэта ўражанні гісторыка літаратуры ці звычайнага чытача. Але любы літаратар перш за ўсё павінен быць чытачом.

**— Наколькі мне вядома, Вы збіраліся пісаць нешта больш грунтоўнае аб „белавежцах“. Якія перспектывы ў гэтай ідэі?**

— Такія намеры і жаданне былі ў мяне. Пра гэта я гаварыў у колішнім інтэрв'ю. Але ў той час, калі маё выказванне публікавалася, я ляжаў у бальніцы. Больш года я не толькі пісаць, але і чытаць нічога не мог. Працяглая хвароба перакрэсліла многія мае планы. Шмат ад чаго давялося мне адмовіцца. Але не ўсё я закінуў. Я працягваў займацца спадчынай Алеся Гаруна і некаторымі іншымі пытаннямі (пасля таго, як ужо нешта даў рады рабіць).



**Уладзімір Казбярук у Кракаве. (24.09.1988 г.)**

Не забыў я і пра „Белавежу“. У зборніку „Беларуская дзіцячая кніга“ (Мінск, 1986 г.) я

# Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ




Спяваюць дзяўчаткі з Нараўкі і Забалотчыны. Фота Янкі Целушэцкага.




Васіль Хомчанка

Цвітуць елкі, ды яшчэ белымі кветкамі? Скажаце — не? А я такую елку бачыў у дзяцінстве.

Было гэта вельмі даўно. Я жыў у маленькім гарадку — іх тады называлі мястэчкамі. Надыходзіў Новы год. Елкі ў нас не прадаваліся, як у вялікіх гарадах. Кожны здабываў яе сабе сам.

Узяў і я сякеру і падаўся ў лес.

Выбраў сабе елачку і пачаў разграбаць валёнкамі пад ёю снег. Елачка была прысадзістая, стройная, купчастая. Я прыўзняў угору ніжнія галінкі, замахнуўся сякерай — і ўстрымаўся, не секануў. Мне здалося, што елачка ад страху не то ўсхліпнула, не то рыпнула. Елачка хацела жыць...

З самых малых год я шкадаваў усё жывое: птушак, звяроў, дрэвы, траву. Ніколі без патрэбы не ламаў голле, не рваў кветак проста так, як некаторыя: сарве, панюхае і кіне.

Але гэту елачку, хоць шкадаваў, а ўсё ж ссек. Ударыў сякерай па камлі, дрэўца пачало хіліцца, чапляцца лапкамі за сваіх сясцёр-елачак. Яшчэ раз секануў, яна калыхнула вяршынькай, храбуснула валокнамі і замёрла на снезе.

Елачцы абрадаваліся сястра і брацікі. Мы паставілі яе ў крыжавіну, упрыгожылі цацкамі і выразанкамі з каляровых папер. Прыгожая атрымалася ёлка. Каля яе мы скакалі, спявалі песенькі, вадзілі карагод, гулялі ў Дзеда Мароза і Снягурачку. І я гуляў і быў рады, што выбраў у лесе такую цудоўную елачку.

Назаўтра, ужо на Новы год, да мяне завітаў мой сябар Славік, які жыў на другім канцы гарадка. Я адразу ж пачаў хваліцца сваёй ёлкай.

Славік абыякава сказаў:

— Звычайная ёлка. Дні праз два ты яе выкінеш на сметнік.

Ён паглядзеў на мяне так, што я зразумеў: Славік зараз паведаміць мне нешта асаблівае.

І ён сказаў:

— На нашай вуліцы ёсць навагодняя ёлка... з белымі кветкамі.

— Ты што, якія на ёлцы кветкі?

— Такая ёлка ў Івана Сяргеевіча. Хочаш пабачыць яе?

Іван Сяргеевіч — наш мястэчковы доктар. У яго на дзіва багаты сад з рознымі рэдкімі раслінамі.

Мы пайшлі да Івана Сяргеевіча. Дарогай да нас далучылася цэлая група дзяцей, бо ўжо многія пачулі пра незвычайную ёлку.

У дом доктара Славік зайшоў спачатку адзін, каб спытаць дазволу прывесці сяброў. Праз некалькі хвілін паклікаў і нас.

Я пераступіў парог першы і ад здзіўлення застыў на месцы. Каля акна ў кадушцы... цвіла вішня. Уся яна была ў белай квецені, быццам у маі, калі ўсё цвіце. Маленькія свечачкі, якія запаліў доктар на вішні, асвяцілі яе зіхатлівым жоўтым святлом. Мы і пах вішні адчулі — тонкі, ледзь улоўны. „Як малаком аблітыя, стаяць сады вішнёвыя...“ — міжволі прыйшло на памяць.

Усе маўчалі, уражаны такім дзівам. Так ціха было ў доме, што мы нават чулі патрэскванне свечак.

— Падабаецца? — спытаў Іван Сяргеевіч. Ён быў вельмі задаволены, што яго навагодняя „ёлка“ так нас уразіла. Зняў з вішні цукеркі і пачаставаў нас. А потым павесіў новыя, для іншых дзяцей, якія, вядома ж, прыйдуць таксама падзівіцца на гэтую „ёлку“.

— Як жа яна зацвіла? — спыталі мы.

Іван Сяргеевіч спачатку расказаў нам вось што:

— Калісьці нашы продкі — славяне — вельмі любілі вішні. У іх быў нават бог вішань — Кернiс. І было ў іх так заведзена: вішні вырошчваліся ў кадушках, а зімою, пад Новы год, прымушалі іх цвісці. За акном сумёты да стрэх, завіруха гудзе, а на покуці вішня ў квецені, аздобленая стужкамі ды свечкамі. Прыгожа і святочна. І так сустракалі Новы год.

А потым хтосьці палічыў (нейкі, відаць, гультаяваты чалавек), што вельмі клапатліва — вырошчваць, а потым сустракаць Новы год з такімі вішнямі, і замяніў іх елкай. Пайшоў у лес, ссек, прынёс і паставіў. Проста і лёгка.

— А як жа вішню прымусіць

(Працяг на стар. 10)

## Вершы Віктара Шведа

### ЦІ МАМУСЮ ПРЫНЁС БУСЕЛ?

— Сказала ты мне, мама, —
Азвалася дачуся, —
Што вось цябе таксама
Прынёс у дзюбе бусел.

Ды як паверыць маю
У дзеянне такое,
Калі ты, дарагая,
Прыйшла на свет зімою?

### ГАРМОНІК

Добры тата сягоння
Купіў Ваню гармонік,
І запальчыва Ваня
Прыступіў да ігрння.
Браў гармонік у рукі —
Ды пайшла ў лес навука!
Нервавацца стаў тата,
Двоек вельмі багата.
— Як іграеш няспынна,
А не ў вольнай хвіліне,
Я гармонік твой скора
Адвязу зноў у горад!

### ТЫ СКАЖЫ МНЕ, ЛЮБА, КОЛЬКІ ПАСТЫ Ў ТУБЕ?

Задае пытанні часта
Брат малой сястрыцы Любе:
— Ты скажы мне, зубной пасты
Колькі ёсць у адной тубе?

— Я не ведаю, Сярожка, —
Адказала сястра шчыра.
— Дык вось ад вакна да ложка
Будзе метраў мо з чатыры.

### АКВАРЫУМ

Купіў тата Сярожу акварыум.
Заглядаецца коцік у шыбку
Ды жыве ён адзінаю мараю,
Каб злавіць хоць маленькую
рыбку

Дакрануўся вады сваёй лапкаю,
А вады коцік вельмі баіцца,
Ды вада паказалася зябкаю,
У вадзе можна нат утапіцца.

### ШЧЫРАЯ РАЗМОВА

— Ты ўжо, сынок, у нас падрос,
І думка спее ўжо твая.
Хачу каб ведаў: Дзед Мароз
У новы год — быў гэта я.

— Мне гэта смешнае да слёз,
У чым так многа пекнаты.
Той бусел, што мяне прынёс,
Гэта таксама, татка, ты.

### НЯХАЙ У ХАЦЕ ПАДРАСЦЕ МОЙ БРАЦІК

— Бяды з табой у нас багата,
Нядобры вельмі ты, мой сынку,
Як не палюбіш свайго брата
Дык прадамо яго на рынку.

— Ты не спяшы, матуля,
з гэтым,
Няхай пабудзе ў нашай хаце.
У нас ён падрасце за лета,,
Напэўна, больш тады заплацяць.

### МАЛЫ РАЗУМНІК

Пытае раптам мама
Маленькага Рыгора:
— Чаму, сынок, часамі
З самім сабой гаворыш?

Адказ матуля чуе
Ад быццам бы няўмекі:
— Паразмаўляць люблю я
З разумным чалавекам.

## Вандроўкі па роднай зямлі

(Заканчэнне)

### ВАНДРАВАННЕ ПРАДАЎЖАЕЦЦА

Пры ўездзе ў Стрыкі стаіць каплічка з 1911 г., якую стрыкаўцы называюць святым Янам. Калісьці на тым месцы стаяла драўляная фігура св. Іаана Хрысціцеля, велічынёю ў рост чалавека. Пэўна паходзіла яна з часоў уніі. Сярод жыхароў Стрыкоў жыве памяць аб здарэнні, звязаным з фігурай св. Іаана.

Аднойчы з Бельска ў Стрыкі ехаў царскі прыстаў, каб сцягнуць з жыхароў падаткі. Не даехаў, аднак, ён спакойна ў сяло. Іаан перапужаў яго коней. Якраз насупраць фігуры яны панеслі прыстава. Ён, ледзь выратаваўшыся, потым строга загадаў фігуру св. Іаана скінуць з пастумента і закапаць на месцы, якое вяскоўцы называлі „шчурэўскія могілкі". Здарэнне гэта мела месца ў палове XIX ст. і было яно, можна сказаць, адным з апошніх актаў расправы царскага ўраду над праявамі уніяцтва на Беласточчыне.

Фігуру ніколі не адкапалі. А на „шчурэўскіх могілках" ад тае пары ноччу паказваецца з'ява ў белым. Той мае шчасце яе ўбачыць, хто моцна верыць у яе існаванне...

Назва „шчурэўскія могілкі" паходзіць ад прозвішча гаспадара Шчурэўскага, за пляцам якога тыя могілкі былі. Гісторыя „шчурэўскіх могілак" сягае далёка ў глыб мінулага. Ужо толькі некалькі намагільных камянёў выглядае з-пад зямлі, і толькі на адным з іх відаць яшчэ досыць выразна высечаны крыж.

Традыцыя такіх крыжоў сягае перыяду Кіеўскай Русі. Ці ўжо гэтым могілкам 800, а мо больш гадоў? Гэтае пытанне хвалюе. І што яшчэ больш хвалюе? У якую пару не зайсці на „шчурэўскія могілкі", заўсёды над тым каменем ляжаць свежыя кветкі і галінкі яліны, а ўначы часам можна ўбачыць, як з могілак праблісквае невялікі агеньчык.

Але вернемся да каплічкі. Была яна пабудавана ў 1911 г. стрыкоўскай моладдзю. Галоўным ініцыятарам пабудовы быў Ануфрый Шымковіч. Сын Ануфрыя, Іван, і сёння жыве ў Стрыках. Ён таленавіты мастак-жывапісец. Не адну царкву на Беласточчыне ўпрыгожваюць яго іконы і малюнкі. Іван Шымковіч малюе таксама краявіды, партрэты і робіць копіі карцін вядомых мастакоў. Ён — самавук, таму яго мастацтва простае, як душа нашага чалавека, а разам з гэтым па-свойму дасканалае.

Стрыкі з іх людзьмі і гісторыяй — вельмі цікавае сяло. Таму, каб бліжэй іх спазнаць, трэба сюды прыбыць не адзін раз. А цяпер, што ж, пара ўжо далей падавацца.

...Зямліца наша родная, ты нас

(Працяг на стар. 7)

## Свойскія малюнкі



*Хата ў Цялушках. Мал. У. Петрука.*

### ВЯСКОВЫЯ САМАЎПРАВЫ

У гміне Орля 25 салэцтваў. Некаторыя з іх малаактыўныя. Яны ў асноўным патрабуюць усяго ад гміны. Самі не выказваюць ніякай ініцыятывы. Надта важнай справай на вёсцы з'яўляецца выкарыстоўванне ўласнага грашовага фонду, а ў многіх жа вёсках гэтыя грошы не выкарыстоўваюцца, значыць, не прыносяць ніякай карысці. Нядобрая гэта з'ява, калі солтыс толькі паўтарае: „гміна не зрабіла, гміна не дала", а не праяўляе ніякай уласнай ініцыятывы. Значыць, што не трапна выбіраліся вясковыя самаўправы. Вось прыклад: большасць вясковых самаўправаў не выканала планаваных рамонтаў дарог, святліц, не купіла машын, не праклала тратуараў. У сувязі з гэтым на канец 1988 г. на іх рахунку ва ўсёй Арлянскай гміне асталіся нявыкарыстаныя некалькі мільёнаў злотых. Гэта „замарожаны капітал", які, калі б быў пушчаны ў рух, прынёс бы гміне новыя дарогі, святліцы і т.п.

Ёсць пастановы Гміннага камітэта партыі, каб вёскі супольна рэалізавалі інвестыцыі і выкарыстоўвалі супольныя фонды. У выпадку Арлянскай гміны можа гэта быць дарога паміж Дыдулямі і Круглым, з якой маглі б карыстацца жыхары Дыдулёў, Круглага, Москаўцаў, Вулькі-Выганоўскай, Паўлінава і Чэхаў-Забалотных. На конце толькі гэтых вёсак знаходзіцца звыш 1 мільёна зл.

Вясною бягучага года запланавана пусціць аўтобус, які б ездзіў па трасе Бельск — Пашкоўшчына — Дыдулі — Круглае — Паўлінава — Чэхі-Забалотныя — Москаўцы — Вулька Выганоўская — Грыгораўцы — Маліннікі — Шэрні — Кашалі — Орля — Бельск. Хачу сказаць, што дагэтуль жыхары гэтых вёсак не мелі непасрэднага спалучэння з Орляй праз Бельск. Верым, што дырэкцыя ПКС у Бельску, нягледзячы на цяжкасці, адкрые гэтую аўтобусную лінію, яе вельмі чакаюць жыхары спомненых вёсак.

На пленуме Гміннага камітэта ПАРП стаяла таксама прапанова, каб вясковыя самаўправы ў грамадскім пачыне выканалі плугі для адгортвання снегу на сваіх дарогах. Ведаючы, як цяжка бывае зімою, гэтая думка варта падтрымкі. У пастановах пленума гаварылася таксама, каб вясковыя самаўправы адкрывалі новыя паслуговыя пункты, кіёскі і гэтак далей. Можна, напрыклад, ачысціць існуючыя сажалкі і закладаць гадоўлю рыб. Заданні, якія могуць выканаць вясковыя самаўправы, вельмі вялікія і самі вёскі могуць зрабіць для сябе вельмі многа.

Да перадавых вясковых самаўправаў у гміне Орля належаць: Орля, Рудуты, Крывяцічы, Кашалі. Гэтыя вёскі рацыянальна выкарысталі свае фонды для дабра ўсіх жыхароў.

Ян Кубаеўскі

## Жадаю ладу ў жыцці, а ў працы — плёну

(Працяг са стар. 1)

Значным дасягненнем арганізатараў канферэнцыі я хацеў бы палічыць тое, што ў ёй удзельнічала моладзь. А гэта значыць, што ў сучаснага, вельмі заслужанага актыву БГКТ і ў „белавежцаў" расце змена, зацікаўленая справамі развіцця беларускай культуры. Гэта дае падставу глядзець у будучыню з аптымізмам.

**— Што Вы, як гісторык літаратуры і проста як чытач думаеце аб літаратурным беларускім руху ў Польшчы?**

— У сваім дакладзе на канферэнцыі я ўжо сказаў, што сапраўдная навуковая гісторыя беларускай літаратуры не зможа не ўлічваць здзяйсненняў аб'яднання „Белавежа". І справа тут нават не ў колькасці падрыхтаваных і выдадзеных кніг — хоць тут лічбы ўражваюць (асабліва калі не забываць пра вашы ўмовы і магчымасці), — а ў разнастайнасці творчых манер пісьменнікаў (паэтаў, празаікаў, публіцыстаў).

Уся дзейнасць БГКТ і літаратурнага аб'яднання „Белавежа" дае падставу для аптымістычных разважанняў. Пасля другой сусветнай вайны на невялікім ускрайку зямлі на Беласточчыне зусім самастойна, без якой бы там ні было падтрымкі, зарадзіўся і набраў сілы шырокі культурна-грамадска-мастацкі рух. У гісторыі беларускай культуры пакіне трывалы след і „Ніва", і мастацкія ды і навуковыя публікацыі прадстаўнікоў Беласточчыны.

„Белавежцы" здзяйсняюць тое, чаго не маглі зрабіць нашы продкі. Ці многа мы сёння ведаем, як на Беласточчыне жылі людзі 100, 200, 300 гадоў таму назад? У наш час у лёсе народа адбываюцца карэнныя, рэвалюцыйныя змены, старая вёска знікае з гістарычнай сцэны. І толькі творчасць пісьменнікаў дае магчымасць зберагчы тое, што нам уяўляецца нечым звычайным, будзённым, можа нават і недастаткова цікавым, але што для нашчадкаў будзе незвычайным адкрыццём і сапраўдным багаццем.

Энтузіязм „белавежцаў" — гэта школа патрыятычнага выхавання і для нас. „Ніва" і „белавежцы" маюць магчымасць у нечым нас апярэджваць. Вы, напрыклад, без усякіх перашкод пісалі пра Алеся Гаруна тады, калі мы яшчэ вымушаны былі лічыцца з воляй некампетэнтных чыноўнікаў.

Не ведаю, ці гэта ўражанні гісторыка літаратуры ці звычайнага чытача. Але любы літаратар перш за ўсё павінен быць чытачом.

**— Наколькі мне вядома, Вы збіраліся пісаць нешта больш грунтоўнае аб „белавежцах". Якія перспектывы ў гэтай ідэі?**

— Такія намеры і жаданне былі ў мяне. Пра гэта я гаварыў у колішнім інтэрв'ю. Але ў той час, калі маё выказванне публікавалася, я ляжаў у бальніцы. Больш года я не толькі пісаць, але і чытаць нічога не мог. Працяглая хвароба перакрэсліла многія мае планы. Шмат ад чаго давялося мне адмовіцца. Але не ўсё я закінуў. Я працягваў займацца спадчынай Алеся Гаруна і некаторымі іншымі пытаннямі (пасля таго, як ужо нешта даў рады рабіць).



**Уладзімір Казбярук у Кракаве. (24.09.1988 г.)**

Не забыў я і пра „Белавежу". У зборніку „Беларуская дзіцячая кніга" (Мінск, 1986 г.) я

# СПЯВАЕМ БЕЛАРУСКІЯ ПЕСНІ

## БЕЛАЯ ЛІЛЕЯ

*Словы А. Грачанікава*
*Муз. Ул. Будніка*

Над ярам, над крутым
Чаромха расцвіла.
Над ярам, над крутым
Чаромхава завея.
Я дзякую табе,
Што ты са мной была,
Як белая мая лілея.

ПРЫПЕЎ:
Я дзякую табе за ласку і цяпло,
Я дзякую табе пяшчотна і сардэчна.
Лілею ад мяне у далеч аднясло,
А ў сэрцы ты маім навечна.

Чаромха адцвіла —
Лілея расцвіла,
Схіліліся ў журбе
Пялёсткі над вадой,
Каб ведаць ты магла,
Каб зразумець магла,
Як я хачу зноў быць з табой.
ПРЫПЕЎ.

І не шкадую я,
Што недзе яр круты.
Там сонечнай вясной
Чаромхава завея.
І не забуду я,
Што недзе ёсць і ты,
Як белая мая лілея.
ПРЫПЕЎ.




# НІЎКА



Пацыент: У чым справа, доктар, не куру ўжо год часу, а мала лепш сябе адчуваю?

Лекар: Гэта фабрычны дым ушчэрб здароўю прыносіць. Мы дыхаем паветрам, зблжаным да папяроснага дыму.

### У СВЕЦЕ МУДРЫХ ДУМАК

*Маладосць шчаслівая тым, што ў яе ёсць будучыня.*
*Мікалай Гоголь (1809-1852), пісьменнік.*

*

*Калі можаш, ідзі наперадзе веку, калі не можаш, ідзі разам з векам, але ніколі не будзь ззаду веку.*
*Валеры Брусаў (1873-1924), паэт.*

*

**— У чым справа? Чаму ты такі расчараваны?**
**— Напісаў бацьку, каб ён прыслаў грошы на набыццё некаторых кніг.**
**— Ну, дык што?**
**— Ён прыслаў мне кніжкі!**



**Звяртай на сябе ўвагу, не толькі праходзячы міма люстра.**

# ЗАГУЛЯЛА КОЗАЧКА

**У цётухны Соні была козачка шэрая. Цётухну козачка вельмі любіла, за ёю хадзіла, быццам верны сабачка. Соня таксама казой даражыла, паіла яе, малачко папівала і сыры рабіла.**

**Калі бляяла, цётухна Соня разумела яе размову, ваду ёй давала, на траўку вадзіла. Калі кудысь Соня адыходзіла, у хлявок козачку загапяла, таму што яна ёй спадарожнічала б. І так плыло жыццё. Але наступіў той дзень, калі козачка стала неспакойнай, дакучлівай, бляючай, быццам прыхварэўшай. Інстынктам жаночым Соня адчула, чаго козачцы хочацца.**

**— Значыць, загуляла яна, з козлікам спаткацца ёй трэба, — тлумачыла сама сабе гаспадыня.**

**І пайшла цётухна козліка шукаць, а за ёю, дробна перабіраючы ножкамі, козачка плялася. Знайшла Соня козліка на ўскраіне сяла, увязанага на пашы. Быў ён сярэдніх казліных размераў, але велізарныя рогі і вялікая барада яго неяк павялічвалі значна.**

**Козачка забляяла і козлік адазваўся. Соня думала, што козачка адразу пойдзе да кавалера, але не, козачка не адыходзіла ад гаспадыні, быццам пераляквалася. Соня стала цапіхаць яе ў напрамку казла, але яна была пакалінаму ўпартая. Шаматаніна працягвалася. А тым часам разахвоціўся рагаты, пачаў бляяць страшэнна, стаў нагамі дзерці зямлю, тузацца, падскокваць. І ўрэшце вяроўка парвалася, а рагата-барадаты, рассапеўшыся, пусціўся ў напрамку козачкі і Соні. Пераляклася жанчына яго грознага выгляду і стала ўцякаць ад козачкі, а тая, замест чакаць спаткання з кавалерам, стала гнаць гаспадыню. І тут няўдача. Соня спатыкнулася і ўпала. На яе наскочыла козачка, а на козачку казёл. Карціна нязвыклая, па-свойму смешная, а для Соні страшная, бо адчула яна моцна на сваім целе казліныя капыты. Соня хутка сарвалася на ногі, стала бегчы да будынкаў, а за ёю козачка, а за козачкай казёл. Найбліжэй была смеццевая будка з брамкай без зашчапкі, і яна туды схавалася. Козачка бегала навокал будкі, станавілася на яе сценкі пярэднімі нагамі, а на яе наскакваў казёл барадаты. І калі скочыла козачка на брамку, а яе акірнучы казёл, брамка пад іх напорам адчынілася і козачка з казлом апынуліся ў смяццярні, разам з Соняй.**

**— Што рабіць, што чыніць? — думала Соня. І раптам выскачыла яна з будкі і стала трымаць брамку, каб не адкрывалася. Козачка перастала бляяць. Соня глядзела на ўсё гэта, аж млеўка ёй стала. Потым адкіліла брамку і адыйшла ад будкі далекавата. Праз нейкі час прыбегла да яе козачка, і адправіліся яны дамоў.**

**Міхась Сваяк**

### ЯБЛЫК РАЗЛАДУ

Багіні спрачаюцца аб прыгожасці.
— Парыс, каму ты аддасі яблык?
Гера прапануе яму ўладу, Афіна — славу, Афрадыта — самую прыгожую жанчыну.
Марудзіць Парыс: ён любіць і ўладу, і славу, і жанчын.
...Але больш за ўсё Парыс любіць яблыкі.

*

Пан: Я вас прасіў прынесці бутэльку віна і кубак вады.
Слуга: Вада, паночку, ужо ў віно наліта.

*

— Афіцыянт! Па-мойму, у вас порцыі сталі меншыя, чым раней.
— О, гэта аптычны падман. Залу рэстарана крыху пашырылі, таму порцыі здаюцца меншымі.

*

Настаўнік:
— У гарачыню прадметы расшыраюцца, а ў халодную пагоду звужваюцца. Хто прывядзе прыклад?
Вучань:
— Канікулы.



— Ты чаму хуліганіш?!
— А я не ўсе б'ю, я толькі тых, што ўдзень гараць.



— Мо сакратарка патрэбна?



— А то смешна! Звоніць якраз мой муж і гаворыць, што ён у цябе.

Дзіўная справа: купіць здароўя нельга, а расплачваешся ім пастаянна.




**Юнацтва пачынаеш цаніць, калі яно адыходзіць страсці — таксама.**